Газета заснавана ў 1931 годзе. Адноўлена ў 1999 годзе.

# Голас Пружаны

№ 12 (12)
Чацвер,
23 -29
лістапада
2000 года

Штотыднёвая незалежная грамадска-палітычная газета

Кошт свабодны

2 старонка



СЕКРЕТ СЧАСТЬЯ
II часть

3 старонка



Да 2000 годдзя Хрысціянства
ВЯРТАННЕ з НЕБЫЦЦЯ

4 старонка



РАСКЛАД РУХУ ЦЯГНІКОЎ АД СТ.АРАНЧЫЦЫ

## ДЗІЎНЫЯ СУПАДЗЕННІ!

**Інспекцыя дзяржаўнага падатковага камітэта па Пружанскаму раёну прыпыніла аперацыі па разліковаму рахунку рэдакцыі незалежнай газеты "Голас Пружаны" і тым самым фактычна спыніла магчымасць выхаду чарговага нумару.**



Фармальнай падставай для такой радыкальнай меры паслужыла тое, што філіял Белбізнесбанку на запыт падатковага органу прадаставіў недакладную інфармацыю, паводле якой ІДПК і прыняў такое рашэнне.

Рэдактар газеты Язэп Машкала лічыць такое рашэнне ІДПК неабгрунтаваным і не правамерным. Рэдакцыя, яе партнёры і падпісчыкі газеты непавінны несці маральныя і фінансавыя страты з-за закрыцця разліковага рахунку, па-колькі праблема існуе на ўзроўні ўзаемаадносін філіяла Белбізнесбака і ІДПК.

У дзень закрыцця рахунку рэдактар сустрэўся са сваім падатковым інспектарам, дзе і былі канчаткова высветлена недарэчнасць сітуацыі.

Аднак спыніць запушчаны махавік дзяржайнай машыны аказалася не так проста. Пры існуючым узроўні дасканаласці падатковага заканадаўства і недасканаласці яго выканаўцаў заўсёды можна штосці пашукаць, а тым больш ў зусім нядаўна пачаўшай працу рэдакцыі незалежнай газеты, паспеўшай выпусціць у свет адзінаццаць нумароў.

Зварот рэдакцыі з пісьмом да начальніка ІПДК Кадэшкі Р.М. аб адмене вышэй згаданага рашэння не прынёс поспеху. У тойжа дзень была прызначана праверка фінансава-гаспадарчай дзейнасці рэдакцыі газеты "Голас Пружаны", якая будзе доўжыцца з 22-па 27 лістапада.

У размове з рэдактарам начальнік падатковага органу раёна Кадэшка Р.М. прасіла не звязваць сітуацыю з прыпыненнем дзеяння разліковага рахунку з здзеяннямі і адносінамі да газеты іншых службаў і службовых асоб Пружанскага райвыканкама, а лічыць гэта "проста супадзеннем".

Дзіўныя "супадзенні" ў адносінах рэдакцыі з некаторымі прадстаўнікамі мясцовай выканаўчай улады пачаліся яшчэ на стадыі рэгістрацыі газеты ў маі 1999 года, калі было неабходна ўзгадніць размяшчэнне рэдакцыі ў Пружанскім райвыканкаме. Тады незаконная адмова ў размяшчэнні рэдакціі газеты на тэрыторыі раёна выканаўчым органам мясцовай улады супала з рашэннем Прэзідыума ветэранскай арганізацыі, меркаванне якой прынялося за аснову.

Пасля дзяржаўнай рэгістрацыі газеты ў ліпені 1999 года газета змагла прыступіць да выпуку першага нумару толькі ў чэрвені 2000 года. І зноў дзіўнае супадзенне, адразу пасля выхаду нумару газеце адмовілі ў арэндзе памяшкання, а значыць і ў юрыдычным адрасе, пасля чаго газета страціла магчымаць выдавацца да ўнясення адпаведных зменаў у пасведчанне аб рэгістрацыі.

Пад час т. зв. выбараў дэпутатаў у Палату прадстаўнікоў нацыянальнага сходу РБ прадстаўнікі газеты прынялі актыўны ўдзел ў працэсе назірання і засведчылі шэраг парушэнняў, аб чым паведамлялася на на яе старонках. Гэтая акалічнасць вельмі не спадабалася загадчыку аддзела Пружанскага райвыканкама па інфармаванню і сувязях з грамадскасцю Аляксандру Груздову..

21 лістапада ў другой палове дня ў райвыканкаме адбылося мерапрыемства па падвядзенню вынікаў выбараў Палату. На паседжанне былі запрошаны каля 250 кіраўнікоў рознага рангу ў тым ліку прадстаўнікі няўрадавых арганізацый і рэдакцыі газеты.

Спадар Груздоў зрабіў спробу скарыстаць стаўшую традыцыйнай практыку публічнага "ўздзеяння" на кіраўнікоў дзяжпрадпрыемстваў і ў адносінах да лідэраў няўрадавых арганізацый і рэдакцыі. Аднак, нечакана атрымаў отпаведзь ад рэдактара незалежнай газеты.

22 лістапада рэдакцкыі прызначылі падатковую праверку.

Дзіўнае супадзенне!

**"ГП"**

## НАСТАЎНІКІ ЧАКАЮЦЬ ПРАВЕРКУ

На працягу кастрычніка-лістапада ва ўсіх школах раёна ідзе напружаная праца па падрыхтоўцы да праверкі, якая адбудзецца па ініцыятыве абласнога упраўлення адукацыі.

Праверка планавая. У склад камісіі увойдуць спецыялісты абласнога упраўлення адукацыі і інстытута удасканалення кваліфікацыі настаўнікаў. Правяраючых, будуць цікавіць пытанні арганізацыйна-метадычнай працы аддзела адукацыі Пружанскага райвыканкама па ўдасканаленню якасці навучання школьнікаў ва ўмовах рэфармавання школы.

Вынікі праверкі будуць абмеркаваны на калегіі ўпраўлення адукацыі аблвыканкама ў снежні.

Адсутнасці неабходнага фінансавання галіны з боку дзяржавы, недахопу метадычнай літаратуры, тэхнічных сродкаў навучання настаўнікі, каб выглядаць на неабходным узроўні ўжо ў каторы раз супрацпастаўляюць самаахвярную працу і не толькі.

Рэдакцыя мае дакладныя звесткі, што на сабраныя настаўнікамі сродкі ў некаторых школах для дарагіх гасцей з вобласці рыхтуюцца адмысловыя вячэры і імпрэзы. Настаўнікі спадзяюцца, што такім чынам арганізаваная праграма адпачынку правяраючых станоўча паўплывае на вынікі праверкі і дазволіць перажыць яе з меньшымі стрэсамі і стратамі.



*Фота: IREX/ProMedia*

## ПОДОРОЖАЛ ПРОЕЗД

Постановлением Министерства транспорта и коммуникаций Беларуси с 4 ноября на 30 процентов увеличены тарифы на проезд в автобусах пригородного и междугороднего сообщения.

Стоимость проезда на обычных пригородных маршрутах в автобусах общего типа выросла с6,3 до 8,2 рубля за 1 километр, в автобусах с мягкими откидными сиденьями - с 6,8 до 8,8 рубля; на скоростных пригородных маршрутах - соответственно с 8,2 до 10,7 и с 8,8 до 11,4 рубля; на дополнительных пригородных рейсах - соответственно с 8,5 до 11,1 и с 9,2 до 11,9 рубля.

Стоимость проезда на обычных междугородних маршрутах в автобусах общего типа увеличена с 9,2 до 12 рублей, в автобусах с мягкими откидными сиденьями - с 10,5 до 13,7 рубля; на скоростных междугородних маршрутах - соответственно с 12 до 15,6 и с 13,7 до 17,8 рубля.

**БелаПАН**





### УСІХ "СЯБРАЎ" ЗРАБІЦЬ "ЧЛЕНАМІ"

Упраўленьне юстыцыі Гродзенскага аблвыканкаму разгледзела заяву аб рэгістрацыі Смаргонскага грамадзкага аб'яднання "Праваабарончы цэнтар" і адтэрмінавала рэгістрацыю на месяц. Заўвагу юрыстаў выклікала слова "сябар" (арганізацыі), якое, паводле меркавання ўпраўлення юстыцыі, не адпавядае літаратурным нормам; яго рэкамэндуюць замяніць словам "член". Акрамя таго, у склад заснавальнікаў параілі ўключыць хаця б аднаго грамадзяніна з сельскай мясцовасьці, паколькі дзейнасьць арганізацыі будзе распаўсюджвацца і на раён. Слова "цэнтар" таксама папала ў няміласць: адгэтуль прывілей на гэтае слова маюць толькі дзяржаўныя арганізацыі, ўсім астатнім называцца "цэнтармі" забаронена.

### ГУМАНІТАРНАЯ ДАПАМОГА? ДЗЯКУЙ, НЯ ТРЭБА!

Гомельскае міжнароднае дабрачыннае аб'яднне "Дапамога дзецям Чарнобыля" адмовілася ад дзіцячага харчавання з Нямеччыны. Нямецкі партнё гомельскай арганізацыі падрыхтаваў канвой вагой у 120 тон і коштам у 1 мільён марак, але беларускі бок неможа прыняць гэтую дапамогу: прадукты няма дзе захоўваць. Адну з мінулых партыяў харчовай дапамогі цалкам з'елі мышы - захоўвацца яна мусіць самаменьш паўгады, бо перад тым як яе размеркаваць, неабходна атрымаць беларускія сэртыфікаты якасьці, а да гэтага прайсьці кантроль у абласным цэнтры эпідэміялёгіі і стандартызацыі. Звычайна гэта зацягваецца на доўгі час. У мінулым годзе, калі аб'ём дапамогі быў у 10 разоў меншы за сёлетні, яго з цяжкасцю ўдалося захаваць. А зараз кіраўніку аб'яднаньня і пагатове прыйшлося адмовіцца ад каштоўных прадуктаў. Калі б яны ўсё-такі дайшлі да Гомелю, імі можна было б больш за месяц карміць усіх дзяцей вобласці. Але ўстаноўленыя дзяржавай нормы і правілы размеркавання гуманітарнай дапамогі не дазваляюць ёй дайсьці да дзяцей, якім яна так патрэбная.

### ГУМАНІТАРНАЯ ДАПАМОГА... СВІННЯМІ

Жыхары вёскі Багданаўка Лунінецкага раёну Брэсцкай вобласці атрымалі 120 жывых свінняў у якасці гуманітарнай дапамогі ад гораду Дунган (Паўночная Ірландыя).Сіней закупілі ў суседнім калгасе. Раздавалі жывёлаў па спісах, якія складалі вясковыя настаўнікі ў школьным ціры, куды людзей запускалі па чарзе лавіць упадабанага парсючка.Мерапрыемства госці здымалі на відэакамеру. На наступны дзень у школе было арганізаванае свята з бясплатнымі пачастункамі ад ірландцаў.

***БАРЦ***

# ПІЛІП - ПИЛИПАЎКА

Алена Адамчук

Піліпаўка - гэта адпеведны час земляробчага календара перад Калядамі, піліпаўскі пост. Піліпаўскі пост пачынаўся з 27 лістапада і працягваўся ў праваслаўных да 6 студзеня наступнага года - да Каляд (Нараджэння Хрыстова). Гэта быў час, калі ўсе палявыя работы заканчваліся. Галоўнай сялянскай працай заставаліся малацьба, прадзенне кудзелі і догляд жывёлы. На працягу ўсяго посту царква забараняла вяселлі, гульні. Толькі гэта забарона амаль не мела сілы.

Назва Піліпаўскага посту паходзіць ад імя аднаго з 12 апосталаў Хрыста - Піліпа (Філіпа), які нарадзіўся ў горадзе Віфсаідзе і быў спачатку кніжнікам, а пазней сустрэў Хрыста і стаў яго верным апосталам.

Піліп быў сведкам смерці і Уваскрашэння Хрыста. Пасля зыходжання Святога Духа на апосталаў ён адправіўся ў Малую Азію - Сірыю - да язычнікаў, абышоў усю Аравію, Эфіопію, многіх вылечыў ад хвароб, ад слепаты. У горадзе Іерапалі ён вылечыў жонку граданачальніка. Тая прыняла хрысціянства, за што граданачальнік загадаў кінуць Піліпа ў турму. Потым Піліп



быў распяты на крыжы ўніз галавой. У 560 г. мошчы святога апостала былі перанесены ў Рым. Рымская каталіцкая царква адзначае яго памяць 1 мая, а праваслаўная - 27 лістапада - дзень яго нараджэння.

Усялян з Піліпаўкай звязана павер'е, што ў гэты час ваўкі ходзяць зграямі і могуць напасці не толькі на свойскую жывёлу, але і на людзей.

## Курсы валют у банках г.Пружаны:

| | купля | продаж |
|---|---|---|
| **БелБізнесБанк** | | |
| $ ЗША | 1 | 1 |
| DM | 4 | 4 |
| RUR | 38 | 40 |
| **Аграпрамбанк** | | |
| $ ЗША | 1115 | 1123 |
| DM | 478 | 486 |
| RUR | 38 | 40 |
| **Беларусбанк** | | |
| $ ЗША | 1115 | 1123 |
| DM | 462 | 485 |
| RUR | 38 | 40 |

## Кошт паліва на гарадскіх АЗС:



| | |
|---|---|
| **АЗС "Пружаны"** | |
| Аі-95 | 646 |
| Аі-92 | 564 |
| Аі-76 | 455 |
| ДП | 411 |
| **АЗС «Салют»** | |
| Аі-95 | няма |
| Аи-92 | 560 |
| Аи-76 | 450 |
| ДП | 411 |



# АДРАПАРТАВАЛІ...

Іван Здановіч

21 лістапада прайшоў у Пружанах сход, на якім былі кіраўнікі самых розных рангаў. Ад грамадскіх арганізацый прысутнічалі Машкала І., Жаркоў А. і Здановіч І.. Раённая "вертыкаль" падводзіла вынікі выбараў у гэтак званую палату. Кароткую інфармацыю выдаў старшыня выканкама Юркевіч А.. Па яго словах, у выбарах удзельнічала 77% выбаршчыкаў, і гэта яго радуе, а засмучае той факт, што лічы 18% тых, хто галасаў, выкрэслілі ўсіх кандыдатаў. Нават з гэтых афіцыйных данных атрымліваецца, што 41% выбаршчыкаў (23% не прыйшлі на выбары і 18% дэманстратыўна выкрэслівалі абодвух кандыдатаў) выказалі свае адмоўныя адносіны да выбараў.

А далей пайшло-паехала. Доўга і многа гаварыў намеснік старшыні Груздоў А., робячы наскокі на апазіцыю, што байкатавала выбары, чапляўся да Машкала І. - рэдактара газеты "Голас Пружаны",за што і атрымаў дастойную водпаведзь. Потым са справаздачамі выступілі намеснік старшыні Казарэз І., старшыня Савета дэпутатаў Замковіч Я., ды кіраўнікі ад гандлю, Засімавіцкіх вайскоўцаў, міліцыі, пошты ды іншыя.

Зала цярпліва маўчала, мала ўнікаючы ў сэнс таго, што гаварылі выступоўцы. А начальнік міліцыі за выступ-справаздачу з некалькіх фраз "сарваў" бурныя апладысменты. Сядзелі мы з Жарковым А., назіралі за залай, слухалі ўсё гэта, ды дзівіліся: няўжо мы трапілі на гадоў 20 назад у мінулае? З усіх гэтых размоў выходзіла, што ў мясцовай улады адзін клопат - адрапартаваць вышэйшаму начальству аб выкананні задання, у даным выпадку, што тычыцца выбараў.

А тое, што выбарчы кодэкс недэмакратычны, што падчас выбараў мелі месца сур'ёзныя парушэнні нават недэмакратычнага кодэкса, нікім з выступоўцаў пад увагу не бралася. Выбарчы кодэкс сапраўды недэмакратычны, бо:

- дазваляе вылучаць кандыдатаў на прадпрыемствах, ва ўстановах, калгасах;
- не дае гарантыі партыям і грамадскім арганізацыям вылучаць сваіх прадстаўнікоў ва ўчастковыя, акруговыя і цэнтральную выбарчыя камісіі;
- дазваляе датэрміновае галасаванне і бясправных назіральнікаў;
- узаконьвае урны-"выручалкі".

І яшчэ. Мой сусед Баброк М. рашыў не хадзіць на выбары. Але яго ўсёроўна знайшлі члены камісіі з Пружанска-кобрынскага ўчастка і "ўгаварылі" прагаласаваць. Адным словам, улада стварае выбарчыя камісіі са сваіх людзей, сама вылучае сваіх жа кандыдатаў; гэтак званая рабочая група, якую стварае выканкам, арганізуе і праводзіць выбары, дабіваючыся неабходнай яўкі выбаршчыкаў і абрання сваіх кандыдатаў. Вось і атрымліваецца, што ўлада выбірала сама сябе.

Роля выбарчых камісій прыніжана: яны фактычна падпарадкаваны ўладзе. Вось такая ў нас дэмакратыя. І апошняе:"Чаму наша Пружанскае чынавенства на сходах-нарадах не карыстаецца сваёй роднай беларускай мовай?"

# КРИМИНАЛЬНАЯ ХРОНИКА

8, 9 ноября выявлены факты продажи самогона. Жительница д. Заполье и жительница д.Слонимцы продавали самодельное «горючее» (самогон). По данным фактам проводится проверка.

***

В Пружанский РОВД 10 ноября с заявлением обратились два жителя д. Н. Засимовичи, бывшие военные. Они нанесли друг другу телесные повреждения, правда, не повлекшие расстройства здоровья. Так и не сумев разобраться, они решили пожаловаться друг на друга в милицию. На обоих составлены административные протоколы.

***

В д. Белоусовщина на мех. дворе задержан гражданин М., ранее судимый, который похитил 20 л. дизельного топлива. Освободившись из мест лишения свободы только в сентябре, в ноябре он пошёл на новое преступление.

***

20 ноября в Пружанский РОВД обратился житель д. Сухополь с заявлением, что у него похитили мотоцикл. По данному факту ведётся проверка.

***

За последнюю неделю выявлено 2 факта обмана покупателей работниками торговли. Продавец магазина №9 (военсервис) обсчитала покупателя на 492 рубля, а продавец бара «Вискули» - на 541 рубль. Покупатели, считайте деньги, не отходя от кассы.

***

За последнюю неделю установлено 3 факта взлома автомобилей: 2 - в Пружанах, 1 - в Засимовичах. Похищаются документы, деньги, магнитолы. **Предупреждение владельцам автомобилей:** *не оставляйте свои автомашины без присмотра и надлежащих охранных устройств.*

## ФАКТЫ ВАНДАЛИЗМА ПРОДОЛЖАЮТСЯ

То, что вандалы не уважают ни чью-то память, ни чей-то покой, известно давно. «Пружанские вандалы» не побрезговали даже оградой из «нержавейки» на городском кладбище. 5 ноября в Пружанский РОВД обратились жители г. Пружаны с заявлением о том, что с могилы родственника похищена ограда. Участковому инспектору Саханевичу В.Е. удалось установить личности воров. Ими оказались трое жителей г. Пружаны, которые украли ограду с целью продажи. По данному факту возбуждено уголовное дело.

***

Участились факты уничтожения лампочек в уличных фонарях. За октябрь-месяц разбито около 30 лампочек. По данным фактам ведётся проверка.

**От газеты «Голас Пружаны»:** *вандалы г. Пружаны, выйдите вечером в тёмное-тёмное поле, для чёрствости и тьмы вашей души там благодать - тьма непроглядная. На худой случай, попробуйте побросать камни в звёзды, может быть, эти камни упадут вам же на голову!*

# НА КОНСУЛЬТАЦИИ У ПСИХОЛОГА

# СЕКРЕТ СЧАСТЬЯ

II часть

## Скажите, вы счастливы?

1. Ловите миг удачи. Живите настоящим. Цените то, что имеете - улыбку ребенка, красоту природы, помощь друга. Счастье складывается из маленьких радостей.

2. Поставив перед собой цель, идите к ней последовательно, ступень за ступенью. Наметьте шаги и постепенно продвигайтесь вперед.

3. Настраивайтесь на хорошее. Положительные эмоции помогают добиться успеха.

4. Любовь освещает жизнь. У каждого из нас должен быть, по крайней мере, один человек, в которого мы вкладываем душу.

5. Улыбайтесь чаще. Доказано: лицевые мышцы посылают сигнал в мозг - и вы почувствуете себя лучше.

6. Не теряйте времени попусту. Заполняйте свою жизнь интересными для вас занятиями.

7. Двигательная активность, аэробика повышает настроение и улучшает настроение.

8. Умейте отдыхать. Только хорошо высыпающийся человек способен достигать успеха.

9. Вместе легче преодолевать трудности. Если у вас есть на кого опираться в трудную минуту, вы справитесь с любыми невзгодами!

10.Спасительная вера. Исследования доказывают, что верующие люди ощущают себя более счастливыми. Они менее склонны к алкоголю, наркотикам, реже разводятся и совершают самоубийство.

Можно стать хозяевами своей судьбы, уметь радоваться каждому дню - и тогда Синяя птица коснется вас своим крылом. Поддерживайте отношения с людьми, которые приносят вам радость.



## Наш тест

***Исходя из семибальной шкалы, ответьте, как часто за последний год вы испытывали:***

| | |
|---|---|
| Гнев | Радость |
| Грусть | Гордость |
| Чувство тревоги | Любовь |
| Чувство вины | Удовольствие |
| Разочарование | Душевный подъем |

## Подсчет очков:

7 - испытываю всегда
6 - почти всегда
5 - большей частью
4 - примерно в половине случаев
3 - иногда
2 - редко
1 - никогда

Подсчитайте отдельно сумму очков, набранных за отрицательные и положительные эмоции. Если у вас больше «хороших» очков, значит, в целом вы считаете себя счастливым человеком. Если перевесили «плохие» - несчастным. Если суммы примерно равны, вы не особо счастливы, но не впадаете в уныние.

Если в своих ответах вы были склонны выбирать максимальные баллы, значит вы - человек «больших страстей», минимальные - очень уравновешенный.

# ГАИ СООБЩАЕТ:

## ТРАГЕДИЯ НА ДОРОГЕ ПРУЖАНЫ - ЗАПРУДЫ

16 ноября около 16 ч. 30 мин. на участке дороги Пружаны-Запруды, в километре от д. Оранчицы, случилась трагедия. Автомобиль УАЗ, которым управлял С.В., заместитель по сельхозпроизводству ПМК-21, столкнулся с двигающимся в попутном направлении погрузчиком-экскаватором. В результате ДТП водитель С.В. от полученных телесных повреждений скончался на месте. В машине УАЗ ехали ещё три пассажира, сотрудники ПМК-21. Все они с тяжёлыми травмами, сотрясением головного мозга и переломами доставлены в Пружанскую больницу.



## Да 2000 годдзя Хрысціянства

# ВЯРТАННЕ З НЕБЫЦЦЯ

І. Машкала
кс. Э. Лоек

Працяг. Пачатак ў 11 нумары



Інтэр'ер касцёла да 1944 года

У 1864 годзе па ініцыятыве ваеннага начальніка горада Пружаны капітана Элліса быў скліка968 сход прыхажан. Пад моцным маральным усціскам было прынята рашэнне аб перадачы недабудаванага касцёла праваслаўнай парафіі. Факт перадачы выглядаў як знак выражэння вернападданскіх пачуццяў да царскага ўрада. Хто не згаджаўся падпісацца пад такім рашэннем, механічна залічваў сябе у разрад "не лаяльных" з усімі наступствамі.

Аднак нават галоўны начальнік краю генерал Мураўёў, разгледзеўшы гэтую справу, не знайшоў падставаў, каб яе задаволіць, западозрыўшы ў ёй "перагібы" мясцовых чыноўнікаў. У прадпісанні Гродзенскаму губернатару гаварылася, што "ўрад не мае патрэбы ў гэтай дапамозе, і калі ахвяравальнікі маюць жаданне аддаць незакончаны будынак для агульнакарыснага прызначэння, то абʼявіце ім, ці не прызнаюць яны больш натуральным зрабіць у гэтым будынку вучылішча ці якую небудзь іншую богаўгодную ўстанову".



Інтэр'ер касцёла да 1944 года

Адначасова з адабраннем будынку касцёла ўлады рабілі захады па пераводу католікаў у праваслаўную веру. Пад іх усціскам у праваслаўе перайшло 940 чалавек з 1812 прыхажан. Перайшоўшым у новую веру пад пагрозай суда забаранялася наведваць касцёл, хрысціць у ім дзяцей.

Гвалтоўныя метады, што ўжываліся пры гэтым выклікалі справядлівае абурэнне вернікаў. Па меры аслаблення ўціску ўладаў католікі звярталіся са скаргамі ў розныя ўстановы аб гвалтоўным пераводзе іх у праваслаўе. Падавалі прашэнні аб вяртанні недабудаванага будынка касцёла. Пружанская парафія хоць і зменшылася за 1863-1864г.г. амаль удвое, пасля далучэння да яе Сялецкага прыходу налічвала больш за дзве тысячы чалавек.

Улады бачылі складанасць становішча, прызнавалі неабходнасць каталіцкага храма ў Пружанах, але запушчаны махавік дзяржаўнай машыны спыніць было ўжо немагчыма. Аб вяртанні касцёла не магло быць і мовы.

Тым часам збудаваны да вежаў і перакрыццяў даху касцёл на працягу дванаццаці гадоў стаяў без належнага догляду і месцамі пачаў разбурацца.

У 1875 годзе ўрад прыняў канчатковае рашэнне аб яго перабудове ў праваслаўную царкву. Каб закончыць будынак, разлічаны на 1000 прысутных, царскі ўрад выдзеліў 16000 рублёў (паводле каштарысу патрабавалася 25992 рублі). Недастаючыя сродкі павінны былі сабраць самі праваслаўныя прыхажане.

Пасля доўгіх адтэрміновак, спасылак на адсутнасць месца пад новы касцёл у Пружанах, улады вымушаны былі уступіць. У "Сувалцскіх губернскіх ведамасцях" 29 мая 1880 года была надрукавана аб'ява аб пачатку таргоў на аддачу ў падрад на трохгадовы тэрмін работ па будаўніцтву каменнага рымска-каталіцкага касцёла па праекту, зацверджанаму міністрам унутраных спраў 21 снежня 1878 года. Умовы праекта патрабавалі, каб касцёл быў не вышэй за іншыя будынкі ў горадзе. Ад будаўніцтва вежаў прыйшлося адмовіцца, а скляпенні выведзены пад самы дах, каб максімальна выкарыстаць аб'ём будынка.

На будоўлю касцёла выдаткоўвалася 22 тысячы рублёў. Падрад на будаўніцтва на конкурснай аснове атрымаў Іван Новікаў. У перыяд з 1881 па 1883 год касцёл быў збудаваны на зямельным надзеле, купленым у жыхара Пружан Быліны. Недалёка ад касцёла была зроблена двухпавярховая званіца.

На ўрачыстасці, прысвечаныя адкрыццю касцёла, што адбываліся 8 верасня 1884 года, прыбыў ксёндз біскуп Віленскай дыяцэзіі Карл Грынеўскі. Новы касцёл быў высвечаны ў імя Унебаўзяцця найсвяцейшай панны Марыі, святой Ганны і святога Карла Барталамеуша.

Дзеля патрэб парафіі ў 1886 годзе. недалёка ад касцёла пабудаваны жылы дом на 7 пакояў (захаваўся да нашага часу). Акрамя касцёла, пружанская парафія мела капліцы на гарадскіх могілках, а таксама ў Букрабаўшчыне (уласнасць сям'і Ляўковічаў), Купліне (Марачэўскіх), Доўгім (Крашэўскіх. Капліца была разбурана казакамі ў 1914 годзе).

Сергей БОЯРСКИХ

# ВЫБОР ПОДЕРЖАННОГО АВТО: КАК ЭТО СДЕЛАТЬ С МАКСИМАЛЬНЫМ УСПЕХОМ

Решение приобрести подержанный автомобиль ставит перед будущим владельцем определенные проблемы. Не купить бы "кота в мешке", который может стать постоянной головной болью и разорителем семейного бюджета. К поездке на автомобильный рынок надо подготовиться. Определитесь заранее, автомобиль какой модели будет для вас наиболее подходящим. Заручитесь поддержкой знакомого, который хорошо разбирается в автомобилях, ведь толковый помощник при выборе подержанной машины просто необходим. Захватите с собой отвертку, ветошь, небольшой магнит, зашитый в матерчатый мешочек с петлей, аудиокассету с качественной записью, чтобы проверить, как работает магнитола.

Начинаем с внешнего осмотра. Надо обойти вокруг автомобиля и определить, не имеют ли крылья, двери, крыша вмятин или волнистых участков. Оцениваем качество окраски. Если блеск лака на какой-либо части кузова слабее или цвет имеет другой оттенок, скорее всего эта часть была помята, ее рихтовали и перекрашивали. Отсутствие блеска по всей поверхности покажет, что автомобиль находился в эксплуатации достаточно долго и при этом хранился под открытым небом. Чтобы скрыть эти и другие дефекты лакокрасочного покрытия, владелец автомобиля мог в виде "предпродажной подготовки" перекрасить всю машину. Убедится, что краска - родная, можно, если отогнуть уплотнительную резину на лобовом и заднем стеклах. Не исключено, что машину перед окраской полностью разбирали, тогда "инспекция" под уплотнитель ничего не даст, зато появляется надежда, что покраску провели на профессиональном уровне.



Воспользуемся припасенным магнитом. Протаскивая мешочек с магнитом за петлю по поверхности автомобиля, можно определить места, где под слоем краски нанесена шпатлевка или приклеена на эпоксидную смолу латка из стеклоткани или другого неметаллического материала. Проверяя кузов на наличие "прогнивших" мест, надо помнить, что наиболее подвержены коррозии передние и задние колесные арки, пороги и днище кузова.

Перед тем, как зайти в салон, обратите внимание, как открываются и закрываются двери. Это не должно требовать больших усилий, если же двери заедают в проемах, то, возможно, это последствия кузовной аварии. Подгоняя кресло водителя под свой рост, проверяем, как работают механизмы регулировки, а также - надежно ли кресло фиксируется в своем положении.

Запускаем двигатель и, пока он прогревается, прислушиваемся к его работе. Стуки при работе на малых оборотах и при резком нажатии на педаль акселератора, подскажут, что детали механизмов двигателя сильно изношены, и он скоро потребует ремонта. Одновременно с этой операцией ваш напарник должен оценить цвет выхлопных газов из глушителя и количество картерных газов из сапуна двигателя. Синий дым из выхлопной трубы и большой прорыв картерных газов через сапун говорят о предельном износе поршневых групп двигателя. Черный дым указывает, что топливо подается в цилиндры двигателя с избытком, обычно это следствие неполадок в системе питания.

Обратите внимание на работу контрольных приборов и лампочек, оцените люфт рулевого колеса. Если он более 10 градусов, то износы шарниров рулевых тяг и рулевого механизма достигли предела.

При работающем двигателе выжмите педаль сцепления. Если при этом появился посторонний звук - выжимной подшипник сцепления в "предынфарктном" состоянии.

Теперь затормозите машину "ручником", включите одну из высших передач, отпускайте педаль сцепления и прибавляйте газ. Если сцепление и ручной тормоз исправны, то двигатель должен заглохнуть. Если он продолжает работать, но автомобиль стоит на месте, значит "ручник" в удовлетворительном состоянии, а диск сцепления изношен.

Троньтесь с места на первой передаче, проехав несколько метров, остановитесь и дайте задний ход. Если при этом будет слышен щелчок - изношены механизмы трансмиссии.

Во время контрольной поездки проверяют работу двигателя, всех механизмов управления, тормозов и амортизаторов. Очень хорошо, если: переключение передач происходит мягко, без заеданий и посторонних шумов в трансмиссии; на прямолинейном участке дороги автомобиль не уводит в сторону; прохождение неровностей дороги не сопровождается ударами кузова, при этом его колебания быстро затухают, а на поворотах кузов кренится незначительно; при резком торможении след колес одинаков, а автомобиль не уводит в сторону.

Желательно завершить контрольную поездку визитом на эстакаду. Здесь проверим двигатель, агрегаты трансмиссии, тормозную систему, амортизаторы на наличие течей. После этого можно принимать решение, "уместен ли торг".

## УВАГА, ПАДРОБКА!

*На тэрыторыі вобласці прадаваўся тасол, які з'яўляецца сурагатам (сумесь вады, салянай кіслаты і фарбы). Вадзіцелям, набыўшым падобную вадкасць неабходна тэрміново яе зліць, каб пазбегнуць выхаду са строю рухавіка.*

Жидкость охлаждающая
**ТОСОЛ А-40**
предназначается для заполнения системы охлаждения автомобилей при температуре до - 40°С.
Применять согласно инструкции по эксплуатации. При попадании на кожу промыть водой.
**Беречь от огня!**
141013 г.Мытищи Моск. обл.
ООО ПКФ «Аметист +»
Тел. 5529639
ТУ 2422-002-42845496
МАССА НЕТТО кг
Срок годности 2 года
Дата изготовления:
- - 06. 2000

*Адзін з магчымых узораў этыкеткі*



# РАСКЛАД РУХУ ЦЯГНІКОЎ АД СТ. АРАНЧЫЦЫ

## ПАСАЖЫРСКІЯ ЦЯГНІКІ

### НА БРЭСТ

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| 177 | пас. | Адлер-Брэст | 04.12 | 04.14 | Па цотных |
| 27 | хуткі | Масква-Брэст | 04.39 | 04.41 | Кожны дзень |
| 73 | хуткі | Масква-Брэст | 05.36 | 05.38 | Па цотных |
| 49 | хуткі | Санкт-Пецярбург-Брэст | 08.51 | 08.53 | Кожны дзень |
| 195 | пас. | Масква-Брэст | 11.29 | 11.31 | Па няцотных |
| 45 | хуткі | Свярдлоўск-Брэст | 14.48 | 14.50 | нядзеля, серада |
| 113 | хуткі | Навасібірск-Брэст | 16.28 | 16.30 | аўторак, |
| 119 | пас. | Гродна-Брэст | 19.56 | 19.58 | Кожны дзень |
| 105 | хуткі | Мінск-Брэст | 21.02 | 21.05 | Кожны дзень |

### НА МІНСК

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| 106 | хуткі | Брэст-Мінск | 07.33 | 07.36 | Кожны дзень |
| 114 | хуткі | Брэст-Навасібірск | 11.35 | 11.37 | серада |
| 50 | хуткі | Брэст-Санкт-Пецярбург | 15.06 | 15.08 | Кожны дзень |
| 50 | ваг. | Брэст-Чалябінск | 15.06. | 15.08 | панядзелак |
| 74 | хуткі | Брэст-Масква | 15.26 | 15.29 | Па цотных |
| 28 | хуткі | Брэст-Масква | 19.31 | 19.34 | Кожны дзень |
| 178 | пас. | Брэст-Адлер | 21.29 | 21.31 | Па цотных |
| 196 | пас. | Брэст-Масква | 22.33 | 22.35 | Па няцотных |
| 120 | пас. | Брэст-Гродна | 23.43 | 23.45 | Кожны дзень |

## ПРЫГАРАДНЫЯ ЦЯГНІКІ

### НА БРЭСТ

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| 6001 | эл. | Мінск-Брэст | 06.21 | 06.23 | Кожны дзень |
| 6003 | эл. | Баранавічы-Брэст | 08.36 | 08.38 | Кожны дзень |
| 6005 | эл. | Мінск-Брэст | 15.41 | 15.42 | Кожны дзень |
| 6007 | эл. | Мінск-Брэст | 18.15 | 18.16 | Кожны дзень |
| 6009 | эл. | Мінск-Брэст | 21.39 | 21.41 | Кожны дзень |

### НА МІНСК

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| 6000 | эл. | Брэст-Мінск | 07.55 | 07.56 | Кожны дзень |
| 6002 | эл. | Брэст-Мінск | 10.07 | 10.08 | Кожны дзень |
| 6004 | эл. | Брэст-Мінск | 13.23 | 13.25 | Кожны дзень |
| 6006 | эл. | Брэст-Мінск | 20.03 | 20.05 | Кожны дзень |
| 6008 | эл. | Брэст-Баранавічы | 22.10 | 22.12 | Кожны дзень |

## РУХ ПРЫГАРАДНЫХ АЎТОБУСАЎ ПРУЖАНЫ-АРАНЧЫЦЫ

5.40, 6.55, 7.55, 8.30, 9.20, 10.50, 12.00, 12.30, 12.45, 14.00, 15.10, 17.00, 17.40, 19.15, 20.30, 21.35;

**ДАВЕДКІ ПА ТЭЛЕФОНЕ 51-1-71 З 14.00 ДА 17.30 ГАДЗІН**

# ІНТЭЛЕКТУАЛЬНАЯ ГУЛЬНЯ "БРЭЙН-ЛАТО"

*Вашай увазе прапануецца конкус пад назвай "Брэйн-Лато", які будзе рэгулярна праводзіцца на старонках нашай газеты.*

*Умовы простыя: вы чытаеце і выразаеце з газеты картку гульні, адзначыўшы пры гэтым, на ваш погляд, правільны варыянт адказу на кожнае пытанне, высылаеце яе па адрасу: Рэдакцыя газеты "Голас Пружаны" 225140, г.Пружаны, вул. Завадская,16 (з паметкай "Брэйн-Лато"). Выпраўлені недапушчальныя.*

*За кожны правільны адказ залічваецца адно ачко. Вынікі 1-га тура будуць падведзены да Новага года. Пераможцу чакае прыз ад Дзеда Мароза. Для падлічыкаў у дадатак да прыза яшчэ і скрыня лепшага пружанскага піва "Герольд Прэміум".*

*Адказы прымаюцца на працягу тыдня змомонту выхаду газеты, па паштоваму штэмпелю на канверце.*

Прозвішча і імя іграка:

Адрас:

| | А | Б | В | Г | Д | Е | Ж |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1 | | | | | | | |
| 2 | | | | | | | |
| 3 | | | | | | | |

### ТЭМА ТРЭЦЯЙ ГУЛЬНІ

### "ВУЛІЦЫ ПРУЖАНЫ"

Больш за пяць стагоддзяў у мястэчку Пружана існавалі сем вуліц:

А) Шырокая; Б) Кобрынская;
В) Хвацкая; Г) Дворская;
Д) Дзярэчын; Е) Забродская;
Ж) Садовая.

1 Назваць 2 вуліцы на якіх меліся вадзяныя млыны.

2 Сёння гэтая вуліца носіць назву Бахарава.

3 На гэтай вуліцы ў1463 годзе збудавана першая сінагога.

**Правільныя адказы на другую гульню, змешчаную ў №11: 1Б, 2А, 3В.**

# КРЫША ПОЕХАЛА!

- Папа, а почему хирург во время операции надевает марлевую повязку?
- Чтобы пациент не мог узнать его потом.

Мужик идет по улице, вдруг к нему подходит другой:
- Вот, наконец-то, я вас поймал. Вы мне долг отдадите когда-нибудь или нет?
- Конечно отдам. Всем, кому я должен, все деньги обязательно отдам. Я уже начал отдавать. По списку, в алфавитном порядке. Недавно вот отдал Абакумову, на этой неделе Авилов получил...

Следует страшный удар в морду. Мужик (падая):
- А вот это совершенно напрасно, товарищ Ящерицын!

Привели двоих преступников на казнь. Огласили приговор, помолились, выполнили все инструкции. Потом палач спрашивает одного:
- Сынок, какое твоё последнее желание?
- Музыку я люблю, хочу ещё раз послушать "Мамбу намбер Файв"!
- Хорошо, сынок! Ну, а у тебя какое последнее желание? - спрашивает другого.
- Умоляю, казните меня первым...!!!

- Эй ты! Лох!..
- Я не лох... меня мама в магазин за булочками отправила, вот денежка...

- Что такое производная пьянка?
- Это такая пьянка, которая на деньги от бутылок за первую пьянку.
- А что такое существенная пьянка?
- Это такая пьянка, у которой вторая производная не ноль.



В вагоне на верхней полке спит мужчина. На подходе к станции машинист резко затормозил, и бедолага в одно мгновение очутился на полу. Встал, потер ушибленное место, зевнул и говорит:
- Ни хрена себе упал! Даже поезд остановился!

- Почему блондинка утонула, упав с пристани?
- Потому что висела табличка "ПЛАВАТЬ ЗАПРЕЩЕНО"

Дятлы долго не живут, потому что стучат...

Отец спрашивает сына:
- Сынок, тебя какая-нибудь профессия привлекает?
- Да, папа, милиция.
- А почему?
- Не знаю. Привлекает и привлекает.

Мужчина женился во второй раз. После свадьбы он говорит жене:
- Дорогая, теперь я должен тебе сказать об одном своем большом недостатке: к сожалению, я часто бываю беспричинно ревнив.
- Не волнуйся, дорогой, меня тебе не придется ревновать без причины.

Объявление:
Женщина. Возраст 75 лет. Ищет работу уборщицей. Интим не предлагать.

Владелец новой машины проснулся ночью от испуганных воплей сигнализации. Выбегает на улицу, а у подъезда два амбала стоят:
- Что, ключи принес, братан? Ну, давай!

Новичок прыгает первый раз с парашютом:
- Красота! Небо синее, огромное, травка зелёная! Ой, а люди-то, люди - как муравьи!
Голос инструктора:
- Идиот! Дергай кольцо - это и в самом деле муравьи!

Сидят студенты в общаге, глушат пивко. В комнату врывается запыханная деваха:
- Ой, мальчики, я к вам так спешила, так спешила, что чуть ноги не пообломала!
Те обводят её мутным взглядом:
- Ну, поломать не поломала, но погнула основательно!

- Как ваша фамилия?
- Пук
- Как?
- Не Как, а Пук.




Шчыра віншуем з Днём нараджэння Адамчук Алену!

Рэдакцыя газеты «Голас Пружаны»



# АБ'ЯВЫ

## ПРАДАМ

*пральную машыну аўтамат б/у.*
**Тэл. 7-14-17.**

***

*Мяккі куток - 190 у.е.*
*Аўтамабіль WV Джетта D, 87 г.в. 1700 у.е.*
**Тэл. 2-07-59**

***

Газ.катлы АОГВ-11, 17, 23, 29 з дастаўкай і АКГВ.
**Тэл: 8-242-5-56-39.**

## ПАСЛУГІ

Кладу плітку тратуарную.
**Тэл.2-31-41 пасля 17⁰⁰**

Голас Пружаны
Рэг. № 1323 ад 16.07.1999 г.
Заснавальнік і рэдактар Язэп Машкала

Адрас рэдакцыі:
225140, г. Пружаны, вул.Завадская, 16
Тэлефон:
(01632) 2-00-40
E-mail:
golasp@irex.minsk.by

Аўтары апублікаваных матэрыялаў нясуць асабістую адказнасць за падбор і дакладнасць фактаў, іх меркаванні могуць не супадаць з поглядам рэдакцыі.
Рэдакцыя не вядзе перапіску з чытачамі і пакідае за сабою права рукапісы не рэцэнзаваць і не вяртаць.

Газета друкуецца на беларускай і рускай мовах.
Падпісана да друку 26 лістапада 2000 года.
Час падпісання 18:00
Надрукавана ў ГАУПП "Слонімская друкарня", г.Слонім, вул. Хлюпіна, 16.
Наклад 1000 экз. Заказ № 3618